

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банкавае конто: Verlag „Baćkauščyna“,
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 29 (259) — Нядзеля 17 ліпеня 1955 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 9


# Палітычныя забойствы ў Мюнхэне

У аўторак 5 ліпеня сёлета ў Мюнхэне быў дакананы ганебны акт палітычнага забойства, ахвярай якога стаўся лідэр славацкай эміграцыі, старшыня Славацкай Нацыянальнай Рады, а ў мінуўшчыні міністар асьветы ў урадзе др. Цісы і пазьней паўнамоцны міністар і славацкі пасол у Бэрліне, прафэсар Матуш Чэрняк. У сваей палітычнай дзейнасьці Чэрняк быў гарачым славацкім патрыётам і дэмакратам, станоўчым антыкамуністым, а пасьля апошняй вайны паказаў сябе, як наважаны абароньнік праvоў нямецкага насельніцтва ў Чэхаславаччыне й прыязных дачыненьняў зь Немцамі.

Атэнтат быў дакананы наступным спосабам. 5 ліпеня Чэрняк зьявіўся ў паштовым урадзе Мюнхэн 13, дзе атрымаў паштовую перасылку ў форме пачка вагою 1.200 грамаў, які дзень перад гэтым, як потым сьцьвердзіла паліцыя, быў нададзены ў Франкфурце маладым мужчынам, што гаварыў дрэннай нямецкай мовай із славянскім акцэнтам. Чэрняк, відаць, заінтрыгаваны незнаёмым яму прозьвішчам на адваротным адрысе, адразу ў паштовым памешчаньні пачаў распакоўваць пасылку. У той-жа мамэнт наступіў моцны выбух, у выніку якога Чэрняк быў змасакраваны й забіты на месцы, была забітая на месцы адна старэйшая Немка, што знаходзілася блізка, і 20 чалавек было раненых, трох зь іх цяжка. Паштовае памешчаньне было здэмаляванае ў такой ступені, што два дні пасьля атэнтату пошта не магла працаваць.

Гэта на працягу дзесяцёх апошніх месяцаў трэйці палітычны морд у Мюнхэне. 7 верасьня 1954 году быў замардаваны адзін Беларус, працаўнік Беларускай Сэкцыі радыя «Вызваленьне» Леанід Карась. 22 лістапада 1954 году быў замардаваны бальшавіцкім агентам лідэр азэрбайджанскай эміграцыі, дырэктар Азэрбайджанскай Сэкцыі радыя «Вызваленьне» Фаталітбэйлі. Цяпер-жа ахвярай подлага палітычнага морду стаўся выдатны славацкі нацыянальны дзеяч. Адна мюнхэнская нямецкая газэта «Абэндцайтунг» 7 ліпеня зьмясьціла прысьвечаны апошняму атэнтату артыкул пад вымоўным загалоўкам «А хто будзе наступным?»...

Два першыя палітычныя морды сярод нямецкага насельніцтва ня выклікалі мацнейшага рэха і былі ўспрынятыя, як дробная сэнсацыя дня. Затое апошні атэнтат, ахвяраю якога прыпадкова сталіся і Немцы, да глыбіні парушыў нямецкую публічную апінію. стаўся прадметам шырокіх камэнтацыяў у прэсе, радыё і наагул нямецкага грамадзтва, паслужыў прычынаю афіцыяльных асьветчаньняў базарскага ўраду, а мюнхэнская пракуратура за навод на сьлед забойцаў вызначыла ўзнагароду ў вышыні 5.000 нямецкіх марак, якую за пару дзён павялічыла да 10.000 марак.

Такая рэакцыя нямецкага грамадзянства і ўладаў зусім зразумелая. Было-б дзіўным, калі-б яе ня было. Затое зьяўляецца дзіўным і незразумелым, што вялікая часьць нямецкай апініі шукае вінаватых не ў васобах інсьпіратараў і арганізатараў забойства — бальшавікоў і іхнай агентуры, але ў васобах ахвяраў іхнай злачыннай дзейнасьці — палітычных эмігрантаў з Усходу.

У паважным мюнхэнскім штодзеньніку «Зюддойчэ Цайтунг» у нумары за 7 ліпеня 1955 г. паявіўся перадавы артыкул выдатнага нямецкага журналісгага і аднаго зь нямецкіх экспэртаў ад савецкіх праблемаў **сп. Імануэля Бірнбаўма** п. н. **«Злоўжытае права азылю».** Ужо сам загаловак зьяўляецца нязвычайна вымоўным і сугэруе думку, што быццам ахвяра атэнтату злоўжывала права азылю і таму сталася аб'ектам палітычнай помсты, ад чаго пацярпелі нявінна і людзі зь нямецкага насельніцтва. Аўтар, ня гледзячы на сваё знаўства савецкіх праблемаў, а ў тым, хіба-ж, і савецкіх мэтадаў змаганьня із сваімі палітычнымі праціўнікамі за мяжой, у сваім артыкуле ня робіць навет лёгкага намёку, што морд быў дакананы вонкавай бальшавіцкай агентурай. Ён паддае думку, што морд быў вынікам міжсобнага палітычнага змаганьня эміграцкіх групаў. У артыкуле чытаем даслоўна: **«Гэтым разам спакойныя тубыльцы мусілі заплаціць сваім здароўем і жыцьцём за тое, што чужыя ўцекачы змагаюцца ўзаемна на нямецкай зямлі зброяй тэрору.»** Цікава было-б даведацца, ці сп. Бірнбаўм прыпісвае «ўзаемнаму змаганьню чужых уцекачоў» факты амаль адначаснага з атэнтатам выкрадзеньня картатэкаў і пэрсанальных актаў уцекачоў аж у трох лягерах для безьдзяржаўных чужынцаў у Заходняй Нямеччыне?

Таму што артыкул сп. Бірнбаўма выражае пагляды шмат якіх Немцаў, прывядзём зь яго даўжэйшую частку:

«Нідзе ня было з такой гатоўнасьцю вызнавана, як у Мюнхэне, каб у добрыя часы ягоныя брамы ня былі шырака адчыненыя для чужых гасьцей. Але найлібэральнейшы грамадзянін ня можа згадзіцца з тым, каб чужыя госьці (або змушаныя шукаць гасьціны) парушалі яму спакой у собскай краіне.

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# За правільную пастаноўку справаў

Аналізуючы грамадзка-палітычнае жыцьцё нашай эміграцыі за апошніх дзесяць год, знойдзем у ім шмат дадатніх праяваў у галіне арганізаванасьці й адміністраваньня арганізацыйнага жыцьця. Але гэта заўважваецца, на жаль, не ўва ўсіх краінах, дзе існуюць беларускія арганізацыі й установы. У некаторых мясцовасьцях назіраем больш дадатніх праяваў, у іншых больш адмоўных. Якраз я хацеў-бы тутака парушыць недахопы ў справах, здавалася-б, чыста тэхнічных і простых, але якія прыносяць непажаданыя вынікі. Гэта датычыцца якраз нашае ступені арганізаванасьці й адміністраваньня.

У выніку новага расьсяленьня беларускае эміграцыі пасьля заканчэньня вайны паўставалі нашыя арганізацыі і ўстановы розным спосабам, адны з выкананьнем усіх арганізацыйных і юрыдычных фармальнасьцяў, іншыя напалавіну прыватна, часамі без належнага афармленьня ў залежнасьці ад абставінаў, у якіх знаходзіліся арганізатары. Бязумоўна ўсё рабілася, як толькі было магчыма, абы запачаткаваць арганізаваную дзейнасьць. Але з часам гэтыя недахопы фармальнага характару павінны былі быць зьліквідаваныя, чаго, аднак, у некаторых асяродзьдзях ня толькі ня сталася, але, наадварот, арганізацыйны хаос зь бегам часу павялічваўся.

Адным з асноўных недахопаў у

кампрамісовых праціўнікаў камуністычнага тэрору й паняволеньня быў якраз наш старшыня, міністар Чэрняк. Таму стаўся ён ахвяраю морду...

Гэтак чырвоныя тэрарыстыя перакідаюць сваю тэрарыстычную акцыю ў краіны вольнага сьвету. Калі-б яны мелі магчымасьць мардаваць сваіх палітычных праціўнікаў на вуліцах, яны гэта рабілі-б. Цяпер абмяжоўваюцца яны да такіх подлых злачынстваў. пры якіх падаюць ахвярамі і людзі гасьцінных для нас краінаў. Але віну за гэта панясяць толькі й выключна забойцы. Мы выказваем сваё найглыбейшае спачуваньне ахвярам чырвонага тэрору і выражаем свой жаль, што праступнікі ў сваіх злачынствах не паўстрымаліся перад забойствам людзей зь нямецкага насельніцтва. Мы цэнім права азылю, якое належыць да неадлучных прынцыпаў запраўднае дэмакрацыі. Але мы ня можам спыніць нашага змаганьня за вызваленьне нашых народаў, якое зьяўляецца нашым сьвятым абавязкам і такім-жа сьвятым абавязкам кажнага волялюбнага дэмакратычнага чалавека.

Мы цьвёрда перакананыя, што кажны сумленны Немец, кажны перакананы дэмакрат у нашым палажэньні гэтак сама выконваў-бы свой абавязак перад народам.

Свабода і права на свабоднае жыцьцё зьяўляюцца непадзельнымі. Мы іх ня можам разглядаць, як эгаістычны прывілей сяньня яшчэ вольных народаў, бо такі шлях быў-бы пэўным шляхам да нявольніцтва гэтых народаў.

Мы згодныя, што сярод эміграцыі, як і сярод кажнага народу, ёсьць людзі добрыя і благія. Але мы мусім падчыркнуць, што чырвоны тэрор зьяўляецца сьціраваны якраз супраць канструктыўнай палітычнай эміграцыі, а ня супраць экстрэмістычных і шавіністычных элемэнтаў, ня супраць былых камуністычных калябарантаў, якія працуюць агентамі розных заходніх цэнтраў.

Для маскоўска-камуністычнай дыктатуры якраз гэтыя канструктыўныя палітычныя эміграцыі зьяўляюцца небясьпечнымі, таму якраз яна свой тэрор накіравала супраць эгзыльных правадыроў нерасейскіх народаў, супраць дэмакратычнай эміграцыі, намагаючыся гэтымі мэтадамі іх застрашыць, зрабіць нямымі, бо яны зьяўляюцца пасярэднікамі між паняволенымі камунізмам народамі і Захадам, зьяўляюцца голасам праўды аб палажэньні ў сваіх краінах. Але і гэты жахлівы тэрор нас не застрашыць гаварыць і далей гэтую праўду.»

жыцьці нашых арганізацыяў зьяўляецца неадрозьніваньне справаў агульнаграмадзкіх ад чыста прыватных кіраўнікоў гэтых арганізацыяў. Гэта сталася пераважна таму, што канцылярыя арганізацыі памяшчалася або навет і сяньня памяшчаецца ў прыватным памешканьні старшыні. Такое зьявішча вельмі моднае ў Амэрыцы. Такі старшыня атрымліваў карэспандэнцыю не на імя арганізацыі, якую рэпрэзэнтаваў, а проста на сваё собскае прозьвішча. Людзі, якія пісалі ў грамадзкіх справах, лічылі патрэбным, ня ведама чаму, у канцы ліста папытацца, як ідзе праца, як здароўе жонкі, дзяцей і г. п. Ён-жа ня ведаў, як такую карэспандэнцыю клясыфікаваць, дык усю складаў у вадну кучу. Яму, як старшыні, высылалі выдавецтвы газэты й кніжкі. Пасьля некалькіх год выбралі новага старшыню, які ў сваю чаргу зарганізаваў канцылярыю ў сваім собскім памешканьні. А былы старшыня яму нічога ня перадаў, выясьняючы, што карэспандэнцыі ў яго трохі ёсьцека, але яна прыватнага характару, а розныя кніжкі й іншыя выданьні — ягонай собскасьць. Такім чынам аказалася, што пасьля некалькіх год існаваньня арганізацыі, як прыходзіць новы старшыня, нічога няма, усё трэба пачынаць ад пачатку.

Такія закладаньні канцылярыяў у прыватных памешканьнях старшыняў вельмі дрэнна адбіваюцца на жыцьці арганізацыяў і моцна абніжаюць іхны аўтарытэт, асабліва тады, калі яны, на працягу пяцігадовага існаваньня, зьмянілі трох або чатырох старшыняў і столькі-ж памешканьняў. Палітычныя й грамадзкія ўстановы дадзенай краіны або іншанацыянальныя арганізацыі, што супрацоўнічаюць з такой беларускай арганізацыяй, ня ўпраўляюцца зьмяняць картатэкі, высылаючы і надалей усю карэспандэнцыю на імя першага зарэгістраванага старшыні. У выніку такой практыкі шмат карэспандэнцыі губляецца або, папаўшы ў рукі неактуальнага старшыні, залежваецца ў яго неабазначаны час.

Калі былы старшыня й надалей астаецца ў арганізацыі і не парваныя «дыпляматычныя дачыненьні» з новым старшынём, дык справа памаленьку наладжваецца, але калі здарыцца наадварот, дык паўстае запраўдная трагэдыя. Першы зь некаторых меркаваньяў пошты ня перадае, а другі зь некаторых меркаваньняў, атрымаўшы не на сябе заадрысаваную, яе не палагоджвае.

Вось некалькі прыкладаў. Дзеля падгатаваньня сьветкаў для злажэньня сьветчаньняў перад Камісіяй Кэрстэна ў справе дасьледваньня камуністычнай агрэсіі была выбраная адмысловая камісія. Яна чакала на паведамленьне, каб распачаць дзейнасьць, але гэтага паведамленьня ніколі не пабачыла. Калі Камісія Кэрстэна прыбыла ў Нью Ёрк дапытваць сьветкаў, дык справа выясьнілася, што гэтая камісія была выслала дзьве тэлеграмы. Адна зь іх вярнулася, а другую атрымаў былы старшыня, які не паклапаціўся даручыць яе адпаведным асобам, што гэтай справай займаліся, але затрымаў яе ў сябе, нічога нікому ня кажучы. Які з гэтага быў рэзультат, усім ведама.

Другі выпадак. Адна із чужынецкіх арганізацыяў выслала запросіны на сьвяткаваньне дня незалежнасьці, натуральна, на стары адрас беларускае арганізацыі. Новы старшыня, атрымаўшы запросіны праз рукі, іх ня выкарыстаў, кажучы, што яны былі высланыя не на ягонае імя. Такім чынам пацярпела агульная справа: Беларусы на ўспомненым сьвяткаваньні ня былі рэпрэзэнтаваныя.

Наагул у нашых арганізацыях заўважваюцца сямейныя спосабы ў пастаноўцы справаў і ў іх палагоджваньні. Асобы на кіраўнічых становішчах ня прытрымліваюцца службовае дарогі ў палагоджваньні арганізацыйных справаў, або проста, няма ведама зь якіх

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Нас не застрашаць гаварыць праўду!

**ПРЭСАВАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў СУВЯЗІ З ЗАБОЙСТВАМ МАТУША ЧЭРНЯКА**

На другі дзень пасьля забойства правадыра славацкай эміграцыі былага міністра, а апошнім часам аднаго із старшыняў Дэмакратычнага Эгзыльнага Саюзу, праф. Матуша Чэрняка, кіраўніцтва Дэмакратычнага Эгзыльнага Саюзу склікала 7 ліпеня сёлета ў Мюнхэне прэсавую канфэрэнцыю. У прысутнасьці многіх нямецкіх і іншых чужынецкіх журналістых, а таксама прадстаўнікоў эміграцыйнае прэсы, канфэрэнцыю адкрыў адзін із старшыняў Саюзу румынскі генэрал Георгэ. Пасьля яго абшырна і ўсебакова выясьнілі палітычны фон забойства праф. Чэрняка другі старшыня Саюзу, Казак інж. В. Глазкоў, чэскі эміграцыйны дзеяч др. Пэкельскі і прадстаўнік славацкіх эмігрантаў. Яны паказалі прадстаўніком прэсы цэлы рад пісьмаў з за зялезнае заслоны да эміграцыйных палітыкаў на Захадзе з пагрозамі іхнага забойства, калі ня спыняць антыбальшавіцкай дзейнасьці.

Ніжэй зьмяшчаем у скарачэньні асьветчаньне, зложанае прадстаўніком прэсы інж. В. Глазковам, зь якім мы поўнасьцю салідарызуемся.

*

«На працягу апошніх дзесяцёх месяцаў толькі ў Мюнхэне былі дакананыя тры морды над эгзыльнымі палітыкамі. 7 верасьня 1954 году быў замардаваны беларускі рэдактар Леанід Карась. Тады 22 лістапада 1954 году азэрбайджанскі вызвольны дзеяч Абдуляг Фаталібэйлі. І пазаўчора быў замардаваны адзін з нашых старшыняў былы міністар праф. Матуш Чэрняк. Падобныя выпадкі здараліся ў вапошніх гадох у Нямецкай Саюзнай Рэспубліцы таксама й супраць нямецкіх антыкамуністычных палітыкаў. Гэтак былі заплянаваныя бомбавыя атэнтаты супраць саюзнага канцлера др. Адэнаўэра і старшыні Вольнай Нямецкай Партыі ў Бэрліне Карла Швэнэкэ. Гэта ёсьць ясным довадам таго, што такія камуністычныя мэтады палітычнага змаганьня зьяўляюцца сьціраваныя ня толькі супраць правадыроў эміграцыяў.

Гэтая подлая тэрарыстычная мэтода чырвоных уладароў у змаганьні зь іхнымі зацятымі ворагамі ня ёсьць новай. Гэткім спосабам былі замардаваныя ўкраінскі вызвольны дзеяч Пятлюра ў Парыжы, палкоўнік Канавалец у Ротэрдаме, казацкі пасол Агееў у Софіі, казацкі палкоўнік Гніларыбаў у Варшаве і г. д.

Для нас ёсьць зусім ясным і бяссумлеўным, што забойцамі міністра Чэрняка зьяўляюцца камуністычныя тыраны нашых паняволеных народаў. Тут ня йграе большай ролі, хто быў ужыты за інструмэнт пазаўчарашняга злачынства. Ці гэта быў прысланы адтуль бальшавіцкі агент, ці адзін з завэрбаваных гэтак званых «паваротцаў» на бацькаўшчыну. Для нас зьяўляецца зусім ясным, што інсьпіратарамі морду й фактычнымі яго выканальнікамі былі камуністычныя верхаводы. Таму мы выказваем свой жаль, што некаторыя чужынецкія журналістыя прабуюць выясьняць гэтае злачынства вынікамі міжсобнага змаганьня эміграцкіх групаў і тым самым робяць вялікую прыслугу камуністым.

Хто мог быць найболей зацікаўленым у мордзе Чэрняка? Хто зьяўляецца ахвотным і здольным на такое злачынства? Толькі чырвоныя дыктатары!

Чаму яны гэта зрабілі?

Мы паведамлялі ад году часу аб узрастаючай вялікай камуністычнай афэнзыве супраць палітычных эміграцыяў. Да гэтага часу нас западозрывалі, што мы падобнымі паведамленьнямі мелі на мэце прыдаць большае значэньне і стварыць лепшую каньюнктуру для эміграцыяў на Захадзе. Але факты гавораць дастаткова аб чымсьці іншым.

Эміграцыя зьяўляецца войстрым гвоздзем у люстры, войстрым асколкам у целе камуністычнай дыктатуры. Толькі наша прысутнасьць у вольным сьвеце ўжо робіць вялікае ўзьдзеяньне на публічную апінію Захаду. Мы зьяўляемся голасам нацыянальнага сумленьня і палітычнага супраціву нашых паняволеных камунізмам народаў. Мы зьяўляемся гарольдамі праўды аб жахлівым паняволеньні нашых братоў у камуністычным ярме. І хто ведае, колькі разоў мы перашкодзілі Захаду зрабіць ілюзарычнае непаразуменьне з нашымі панявольнікамі коштам свабоды нашых народаў? Сяньня сталася агульна ведамай шырака заплянаваная афэнзыва камуністычнай дыктатуры супраць палітычнай эміграцыі. Чаму камуністыя якраз гэты час выбралі для такой акцыі?

Нутранае палажэньне камуністычнай дыктатуры дае ясныя паказьнікі раскладу рэжыму. Чырвоныя тыраны былі ня ў стане на працягу 35 год накарміць і адзець сваіх нявольнікаў і цяпер стаяць перад гаспадарскім крызысам, які ўсьцяж завайстраецца. Прыгонныя сяляне ў калгасах і саўгасах больш ня хочаць працаваць для камуністычнай дыктатуры. Работнікі таксама незадаволеныя. Інтэлігенцыя пачынае падносіць, дасюль затоены, голас пратэсту. Нацыянальныя рухі нерасейскіх народаў зьяўляюцца агнём, які яшчэ гарыць пад попелам мільёнаў расстрэленых, замораных голадам, высланых і іншымі спосабамі замучаных за нацыянальную свабоду людзей пад тэрорам маскоўскага камуністычнага імпэрыялізму.

Гэта ўсё змушае камуністычных дыктатараў пяяць песьні аб гэтак званай коэгзыстэнцыі. А гэтаму найбольш перашкаджаюць палітычныя эміграцыі. Камуністыя бачаць у палітычных эміграцыях вялікую небясьпеку для ажыцьцяўленьня сваіх плянаў, бо эмігранты зьяўляюцца навочнымі сьветкамі ўсіх злачынстваў паліцыйнага таталітарнага паняволеньня, бо эмігранты раскрываюць запраўдныя намеры і мэты камуністычнай палітыкі ў вольным сьвеце, бо эмігранты ў вачох паняволеных народаў за зялезнай заслонай зьяўляюцца носьбітамі вызвольных імкненьняў гэтых народаў і цешацца іхнай сымпатыяй. Таму, што ўсе спробы змусіць да павароту эмігрантаў праваліліся, чырвоныя тыраны ўжываюць сваіх шпіёнаў, агентаў, дывэрсантаў і забойцаў на Захадзе супраць эмігрантаў. Яны не абмяжоўваюцца да тэрору ў нашых бацькаўшчынах, але таксама накіроўваюць гэты тэрор супраць сваіх праціўнікаў на Захадзе, супраць змагароў за вызваленьне паняволеных народаў. Адным з такіх бес-

# Шляхі беларускіх дзяцей у апошнюю вайну

(Працяг з № 28)

### Прыезд новых кіраўнікоў

Чакалі мы іх ужо даўно. Яшчэ ў пачатку ліпеня нас паведамілі, што эвакуаваныя зь Беларусі кіраўнікі ЗБМ маюць прыехаць да нас і, калі ня поўнасьцяй пераняць апеку над дзяцьмі, дык прынамся дапамагаць нам. Што да гэтае будучае дапамогі, дык некаторыя з нас мелі паважныя засьцярогі. Справа заключалася ў наступным: мы не зьяўляючыся «прафэсыйнымі» кіраўнікамі СБМ-у і будучы сюды толькі часова прыдзеленымі, ня вельмі зьвярталі ўвагу на розныя бюракратычныя інструкцыі ці пажаданьні Галоўнага Кіраўніцтва СБМ на Нямеччыну ды наогул вялі сябе даволі незалежна ад Бэрліну. Прыезд-жа запраўдных кіраўнікоў СБМ з поўнасьцяй захаванай сваёй герархіяй, на думку некаторых з нас, моцна пагражаў нашай незалежнасьці ды прарочыў поўнае падпарадкаваньне гэтай герархіі. Як аднак аказалася ў будучыні, гэтыя засьцярогі былі дарэмнымі.

І вось у жнівені нас паведамілі, што ўжо ў Капэн прыехалі новыя кіраўнікі. Зразумела, усе мы зь нецярплівасьцяй чакалі на магчымасьць сустрэчы зь імі — як-ні-як яны-ж яшчэ адносна нядаўна выехалі зь Беларусі. А дзеля таго, пры першай нагодзе маючы крыху вольнага часу, мы пачалі адзіночна езьдзіць у Капэн і знаёміцца зь імі. Неўзабаве-ж частку зь іх прыдзялілі да нас у Дэсаў. Найбольш усіх цешыла тое, што тут былі ўжо і беларускія кіраўнічкі, якія занялі месца адкліканых з гэтага поваду дасюлешніх кіраўнічак нямецкіх. Уплыў гэтае зьмены ўжо ў хуткім часе пачаў заўважацца, бо дзяўчаткі атрымалі нарэшце тое, чаго ім да гэтага часу не хапала: запраўдную мацярынскую апеку, спагаду й любоў. Тут нельга ня ўспомніць кіраўнічку В. К., якая аддавала ўсю сваю энэргію на ўзгадоўваньне гэтых дзяцей, і якія ў сваю чаргу любілі яе, як родную маці.

Амаль разам з новымі кіраўнікамі прыбыла ў лягер і група (каля 30 асобаў) нашых суродзічаў што ўцяклі перад бальшавіцкай навалай. Для іх быў выдзелены адзін барак, і яны былі часова прыпісаныя пры нашым лягеры. Яны сталаваліся разам зь дзяцьмі, і на працу, прынамся часова не хадзілі, што выклікала нянавісьць да іх збоку іншых чужынецкіх работнікаў. У гэтай групе было пару чалавек у веку за 60 гадоў і мы, пагутарыўшы з адміністрацыяй лягеру, неравезьлі іх потым у Капэн, дзе было куды бесьпячней і спакайней.

### Сэрбскі «дыктатар»

У гэтым-жа часе ў Капэне наступіла невялічкая зьмена: прыбылі новыя жыхары. Гэта былі сэрбскія дзеці, эвакуаваныя з ахопленых партызанамі раёнаў Сэрбіі. Як аказалася, іхныя бацькі былі пераважна ў партызанах. З гэтай групай (панад 50 асобаў) ня было нікога старэйшага, а дзеля таго адміністратар лягеру папрасіў нашых кіраўнікоў займацца імі. Да іх быў прызначаны адзін мой блізкі сябра, які на кажным кроку праклінаў сваё новае назначэньне. Трэба сказаць, што між гэтымі сэрбскімі і нашымі дзяцьмі не магло быць ніякага параўнаньня. Цяжка сказаць, якое пекла мусілі прайсьці яны яшчэ ў Сэрбіі, факт толькі, што гледзячы на іх, мелася ўражаньне, быццам гэта група нейкіх малых дзікуноў, зласьлівых і непаслухмяных да немагчымасьці. Нашыя дзеці баяліся іх і абыходзілі здалёк. Нашага кіраўніка яны ня толькі ня слухалі, але й лаялі яго пасвойму. Быў затое сярод іх адзін хлопец гадоў можа 12, які вонкава абсалютна нічым ня вырозьніваўся, аднак быў для цэлае групы ня толькі кіраўніком, але запраўдным дыктатарам. Ён так тэрарызаваў сваіх равесьнікаў, што яны даслоўна дрыжалі перад ім і выконвалі ягоныя найменшыя капрысы. Прыкладам, калі той ішоў мыцца, дык збоку яго ішло двух «слугаў», якія несьлі ручнік і мыла. Хто яму не падабаўся — хадзіў з разьбітым носам ці зь сіняком пад вачыма. У выніку, роля нашага кіраўніка зводзілася толькі да абароны гэтых дзяцей ад іхнага собскага «дыктатара».

### Паветраныя налёты і смаленскі Мішка

Побач іншых фабрычных блёкаў, быў тут адзін блёк, дзе выпрабоўваліся самалётныя маторы. Бесьперапынны гул гэтых матораў быў чутны на некалькі кілямэтраў. Жывучы аднак у Дэсаў, прывыкалася да гэтага гуку і толькі калі маторы спыняліся адразу заўважалася нешта ненармальнае. Калі гэта здаралася ночай, дык чалавек адразу-ж прачынаўся. Але гэткае ўзьдзеяньне раптоўнае цішыні мела для нас свае добрыя бакі. Тут было правіла, што маторы спыняліся заўсёды за 15 мінут да алярму. Вось-жа ночай, прачнуўшыся ад раптоўнай цішыні, можна было паволі апрануцца, закурыць цыгарэту і, калі пачыналі сваё выцьцё гудкі, быць поўнасьцяй гатовам ісьці ў бункеры. З другога боку, гэта дазваляла і псыхалягічна быць ужо падрыхтаванаму да алярму ці да эвэнтуальнага налёту. У часе начных алярмаў трэба было заўсёды дапільнаваць, каб усе дзеці выйшлі ў бункеры бо тут бывалі й такія «героі» для якіх алярм — гэта нічога і толькі калі пачынала біць артылерыя, яны выходзілі ў бункеры.

У часе дзённых алярмаў мы нярэдка вялі дзяцей за горад у навакольныя ляскі. У гэткіх выпадках ад такіх алярмаў найбольш цярпелі баўэрскія сады. З гэтае прычыны некаторыя хлопцы спэцыяльна чакалі толькі алярмаў, каб магчы бяскарна «пагуляць» у садох. Прыкладам, ужо ўспамінаны Мішка з Смаленску раніцай, калі была добрая пагода, паглядаў на неба, паціраў рукі і задаволена сьцьвярджаў: «Ну, сягоньня, здаецца, будзем есьці яблыкі». І калі часамі ягоныя разьлікі не апраўдваліся, алярму ня было, дык ён лаяў і Ангельцаў, і Амэрыканцаў ды лічыў, што гэтыя апошнія крыўдзяць яго, не даючы нагоды пайсьці ў баўэрскі сад. Калі-ж ягоныя надзеі спраўджаліся, дык пасьля налёту Мішка задаволены прыходзіў да нас у канцылярыю ці ў нашае памешканьне і частаваў сваёй здабычай.

Тут мімаволі хочацца аб Мішку сказаць крыху больш. Гэта быў 13-гадовы хлопец, з натурай бандыта-джэнтэльмэна вельмі інтэлігэнтны, ганаровы й амбітны. З кажным кіраўніком ён гаварыў, як з роўным сабе і пры гэтым ён так «лягічна» падыходзіў да ўсіх справаў, што нярэдка кіраўніка пераконваў у тых выпадках, дзе наагул ня мусіла-б дапускацца нейкая дыскусія. Прыкладам, калі ў часе алярму трэба было заставацца ў лягеры, ён заяўляў кіраўніку, што йдзе ў поле, г. зн. у сады. Пры гэтым дадаваў: «Няўжо вам шкада баўэрскіх яблыкаў? Калі-ж мяне зловяць, скажу, што я ўцёк бяз вашага ведама». Аднойчы, караючы за адну бойку, загадалі Мішку прастояць гадзіну ў кутку ў канцылярыі. Цераз пару дзён ён прыходзіць ізноў да нас і становіцца ў кутку. «Валодзя сказаў, што я жулік, дык я мусіў даць яму ў морду» — паведаміў ён спакойным голасам ды прыпомніў нам зазначыць дакладны час ягонага прыходу, каб яму ня прыйшлося стаяць зашмат. Такім быў «Мішка Смаленскі».

(Працяг будзе)

А. Галубіцкі

# Палітычныя забойствы ў Мюнхэне

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

«Адказнасьць за дзейнасьць і паводзіны ўцекачоў данядаўна ляжала ў першую чаргу на акупацыйных уладах. Ад часу, калі Заходняя Нямеччына сталася суверэннай дзяржавай, яна сама мусіць рупіцца аб сваей чужынецкай палітыцы. Зразумела, разам з правамі растуць і абавязкі. Калі цяпер мы самі маем пастанаўляць аб ахароне права азылю ў Саюзнай Рэспубліцы, павінна адбывацца гэта ў прыязным духу. Тысячы Немцаў у часы Гітлера мусілі таксама шукаць азылю ў чужых краёх; многія зь іх захавалі ўдзячнасьць да дзяржаваў, што іх тады прынялі. Сяньняшняя Нямеччына выказала-б вялікае зло сваім паваротам да цеснага нацыяналізму ў дачыненьні да патрабуючых помачы ўцекачоў.

«З другога боку нямецкія эмігранты часоў Гітлера былі якраз на собскім трактаваньні ў чужых краёх навучаныя, што права азылю забавязвае й тых, **якія зь яго карыстаюць.** Падчас вайны многія дзяржавы з добрай дэмакратычнай традыцыяй, як Швайцарыя або Швэцыя, **забаранілі** замежным уцекачом усякую форму палітычнай дзейнасьці. У іншых краінах, як у лібэральнай Ангельшчыне, над чужынцамі расьцягнутая суровая паліцыйная кантроля. Яна ў мірныя часы была значна зьмякчаная, але нідзе няма такога стану, які ёсьць абазначаны для нямецкага чужынецкага права нашых дзён, што розныя і ня толькі мясцовыя інстанцыі маюць голас у справах, хто павінен быць упушчаны ў краіну, хто атрымлівае права на побыт і працу і гэтага права пазбаўляецца, калі надужывае забясьпечанае яму права гасьціннасьці».

Артыкул канчаецца славамі: «На моцы цэлага раду дагавораў Нямецкая Саюзная Рэспубліка зьяўляецца зьвязанай з Захадам для забясьпечаньня міру. Але як абароннаму сэнсу гэтых дагавораў, так і геаграфічнаму палажэньню нашага краю пярэчыць такое палажэньне, калі на нашай зямлі зьбіраюцца ўцекачы для акцыі супраць краінаў іхнага паходжаньня і нямецкія гарады выкарыстоўваюцца **для чужых радыястанцыяў і замежных агентурных цэнтраў** (усюды падчыркнута ў нямецкай газэце) у якасьці выпадовых базаў супраць Усходу. Парадак нашага чужынецкага права ёсьць неабходным як для нутранай, гэтак і вонкавай бясьпечнасьці краіны».

Такое асьветчаньне ведамага нямецкага журналістага ў вядучай баварскай газэце й ім падобныя высказваньні шмат якіх іншых нямецкіх ворганаў і радыя ня могуць прайсьці міма нашай увагі. Яны датычаць ня толькі нашых найважнейшых інтарэсаў, але й палітычных прынцыпаў вольнага дэмакратычнага сьвету. Яны важную й глыбокую праблему палітычных эміграцыяў з Усходу і іхнай дзейнасьці штучна ўпрошчваюць і ўсе розныя аспэкты яе дзейнасьці падводзяць пад адзін назоўнік. Яны сугэруюць думку, што парушэньні парадку й супакою ў гасьцінных краінах, што даюць права азылю палітычным уцекачом, наступаюць з выключнай віны апошніх. Яны наводзяць на думку, што, каб палажыць канец падобным выпадкам, які меў месца ў Мюнхэне 5 ліпеня, трэба палітычным эмігрантам забараніць усякую палітычную дзейнасьць.

Мы разумеем, што пытаньне палітычных эмігрантаў у Заходняй Нямеччыне зьяўляецца вельмі цяжкім і скамплікаваным у сілу цэлага раду спэцыфічных прычынаў. Мы згаджаемся, што трэба прыняць меры, каб палажыць канец тэрарыстычнай дзейнасьці бальшавіцкай агентуры. Мы таксама ня супраць прадбачанай у сувязі з гэтым нямецкімі ўладамі большай кантролі дзейнасьці чужынецкіх арганізацыяў. Але калі глядзець на справы шырэй, дык трэба разглядаць праблему дзейнасьці эміграцыяў у вагульным аспэкце контракцыі супраць бальшавіцкіх правакацыяў і дывэрсіяў, якую вядзе дэмакратычны Захад, у тым ліку й Заходняя Нямеччына.

З нагоды забойства праф. Чэрняка тая-ж газэта «Зюддойчэ Цайтунг» і ў тым-жа самым і папярэднім нумары прыпомніла сваім чытачом, што на тэрыторыі Заходняй Нямеччыны паштовая дарога ў мінулых гадох была ўжо чатыры разы выкарыстоўваная для бомбавых атэнтатаў, якія былі накіраваныя і супраць вядучых нямецкіх антыкамуністычных палітыкаў, у тым ліку й супраць канцлера др. Адэнаўэра. Але ані тады, ані цяпер нямецкая прэса ня шукала вінаватых за спробы гэных атэнтатаў у васобах плянаваных ахвяраў бомбавых змоваў.

Мы ня можам замыкаць вачэй на магчымую небясьпеку такой рэакцыі часткі нямецкай публічнай апініі, якую выразіў сп. Бірнбаўм. А гэтая небясьпека можа заключацца ў далейшых паўтарэньнях бальшавіцкай агентурай падобных злачынных актаў якраз для тае мэты, каб, пад ціскам публічнай апініі, змусіць заходнянямецкія ўлады забараніць усякую палітычную дзейнасьць эміграцыяў.

Мы з усёй яснасьцю ўважаем за патрэбнае выказаць тут нашае прынцыповае становішча да пытаньня палітычных эміграцыяў у Заходняй Нямеччыне і іхнай нацыянальна-вызвольнай дзейнасьці. Мы войстра асуджаем усякія крымінальныя праступкі некаторай часьці эмігрантаў, што рэкрутуюцца пераважна з прымусова вывезеных падчас вайны на работы ў Нямеччыну. Мы ня маем і ня хочам мець нічога супольнага з агентурнай дзейнасьцю некаторых эмігрантаў, незалежна ад таго, зь якога боку й для чыіх інтарэсаў гэтая дзейнасьць праводзіцца. Таксама мы не падзяляем экстрэмістычнай дзейнасьці некаторых шавіністычна настроеных эміграцкіх групаў. Мы зьяўляемся перакананымі дэмакратамі і пашыраем свае пагляды ў дэмакратычных формах і дэмакратычным шляхам. Але мы зьяўляемся палітычнымі эмігрантамі і ад вядзеньня сваей палітычнай работы за вызваленьне нашае бацькаўшчыны ў легальных формах і лёяльна да краінаў, што далі нам гасьцінны прыпынак, ніколі не адмовімся.

Мы перакананыя, што разважная частка нямецкага грамадзянства і нямецкія ўлады думаюць інакш, чымся сп. Бірнбаўм і тая часьць Немцаў, што падзяляе ягоныя пагляды. У гэтым перакананьні ўгрунтоўвае нас асьветчаньне прэм'ер-міністра баварскага краёвага ўраду др. Гэгнэра, які ў інтэрвью ў мюнхэнскім радыі 6 ліпеня заявіў, што «ёсьць эміграцыі і эміграцыі», г. зн. што адныя працуюць легальна й лёяльна да гасьціннай да нас Нямеччыны, а другія — сваёй злачыннай дзейнасьцю прыносяць для абодвых бакоў шкоду. Прэм'ер-міністар др. Гэгнэр тады-ж асьветчыў, што «для палітычных праступнікаў няма месца ў Заходняй Нямеччыне!» (цытую з памяці — А. К.). Гэтыя словы мы вітаем і іх поўнасьцю падзяляем!

Алесь Крыга

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ».**

Г. А. Такаеў

# Аб Бэрыі, Керэнскім, рэвалюцыі й контррэвалюцыі

(Працяг з папярэдніх нумароў)

### 44. Афармленьне супорніцкіх групаў у Крэмлі

Каб надалей зразумець, трэба мець на ўвазе адну важную дэталь. Пасьля пераходу на Захад, пад сьвежым уражаньнем, я папярэджваў у прэсе й кнігах, што да восені 1947 году ў палітбюры намеціліся варагуючыя групы.

Папершае, група Молатава, Жданава, Вазьнясенскага, Булганіна, Касыгіна і Радыёнава, што абапіралася пераважна на дзяржаўны апарат і генэралітэт. Яна ўважала, што савецкая армія зьяўляецца найбольш вернай зброяй «рабленьня» сьветнай рэвалюцыі і, паколькі Захад меў дурнату раззброіцца, паколькі Эўропа ахопленая радыкалізмам і эканамічным хаосам, паколькі ў умовах таго часу, на думку групы, нельга было чакаць сур'ёзнага супраціву, **трэба дзеіць бездакладна, трэба перасунуць кардоны савецкай імпэрыі хаця-б да Па-дэ-Кале.** Ясна, што генэралітэт, у якога баёвая пыха яшчэ не астыла, сымпатызаваў гэтым настроям.

Падругое, група Бэрыі, што заступлена ў вышэйшай алігархіі адным толькі Бэрыям, але больш або менш выразна падтрымліваная Мікаянам, якая абапіралася пераважна на генаралітэт і апарат МВД і, можа быць, на значную колькасьць кіраўнікоў Каўказу, Украіны і Беларусі. Бэрыя ўважаў, што калі СССР ня будзе весьці сябе асьцярожна ў вонкавым сьвеце, то «хто-небудзь наб'е нам морды» (Бэрыя). Ён гаварыў, што вайна аслабіла дзяржаву больш, чымся гэта здаецца з боку; што на Ўкраіне прайшла засуха: што вынікі нямецкай акупацыі яшчэ ня зусім зьліквідаваныя; што на Каўказе, у Ўкраіне і ў Беларусі, а таксама ў Прыбалтыцкіх рэспубліках, існуе вялікае напружаньне; што ў вайну мільёны грамадзян гэтых рэспублік адмовіліся ваяваць за савецкую ўладу, паднялі аружжа й супраць чырвонай арміі і супраць гітлераўскай арміі. Ён «прасіў» заняцца навядзеньнем парадку ў собскім заплеччы, а там будзе відаць.

Як бачыце, тут Бэрыя выступаў не як, скажам, антысталінец ці антыкамуністы. Не, ён разыходзіўся з молатаўцамі толькі тактычна. У ўсякім выпадку, ён паўстрымаўся ад выказваньня якіх-бы там ня было намёкаў на сваю нязгоду зь генэральнай мэтаю камунізму. Якраз, у 1947 годзе досыць аўтарытэтная асоба сказала мне, што **Бэрыя гатоў ахвяраваць хоць-бы ўсю Расею дзеля ўратаваньня Каўказу ад атамнай вайны.** Я прыводжу гэтую фразу толькі для таго, каб некаторыя людзі ў СССР, якія могуць чытаць гэтыя запіскі, не западозрылі мяне ў намеры затаіць. Ня выключаная магчымасьць, што якраз гэтая фраза й паслужыла Керэнскаму асноваю для абвешчаньня Бэрыі арганізатарам збройнага паўстаньня Каўказу супраць «маскоўскага ўраду». Калі так, дык трэба паўтарыць тут яшчэ раз: аўтарам фразы быў ня Бэрыя, а вораг Бэрыі!

### 45. Пазыцыя Сталіна й кампаніі

У трэйцюю групу ўваходзілі Сталін, Варашылаў, Кагановіч, Андрэяў, Хрушчоў, Маленкаў, Швэрнік, Мэхліс і бадай што ўся верхавінка партыі й галоўнага палітычнага ўпраўленьня збройных сілаў. Гэта — людзі, якія прывыклі глядзець у вусны Сталіна: як будуць шавяліцца, гэтак і дзеіць. Некаторае выключэньне, быць можа, рабіў Кагановіч.

Але з канца 1946 году Сталін ня мог больш мець актыўных пазыцыяў, таму што быў хворы і бадай што пэрманэнтна перабываў на беразе Чорнага мора. Ягонымі вуснамі больш гаварыў Молатаў, што займаў становішча правадыра нумар два, першага заступніка старшыні савету міністраў. Гэта яму было тым лягчэй, што на чале партыі, фактычна, стаяў Жданаў, на чале збройных сілаў — Булганін, а на міжнародных канфэрэнцыях дзеіў Вышынскі. Хрушчоў перабываў на Украіне. Туды быў ськіраваны й Кагановіч. А Варашылаў, Андрэяў, Маленкаў і Швэрнік сваіх пазыцыяў наагул ніколі ня мелі.

Калі, аднак, гаварыць пра ўплыў Сталіна ў той пэрыяд, напрыклад, у канцы 1946 і ў пачатку 1947 гг., дык яго мог выявіць толькі Паскрабышаў, гэты фактычны завадыяка, гэты Грышка Распуцін нашага часу. Ён быў прафэсійным інтрыганам. Ім было зроблена ня мала для нацкоўваньня Бэрыі на Молатава і Жданава і наадварот. Намагаючыся паддзержываць манаполію свайго гаспадара, ён не даваў умацавацца варагуючым групам. Сьпярша дазволіў паслабіць «бэрыяўцаў», а потым пачаў аслабляць «молатаўцаў». Я не баюся сказаць, што, мабыць, калі гэтаму тройчы Янусу стала ясным, што Бэрыя становіцца досыць моцным (1950-51 гг.), ён ужыў далёка йдучых захадаў, на гэты раз захадаў цкаваньня Серава на Бэрыю, і гэта станоўча ўплынула.

Так ці інакш, пакуль Сталін быў жывы, супорнікі захоўвалі больш ці менш збалянсаваныя пазыцыі: Молатаў у вонкавай палітыцы, Бэрыя — у нутранай палітыцы. Шчупак цягнуў у ваду, лебедзь — пад неба, а рак пасоўваўся назад. Але з другой палавіны 1951 году зазначылася парушаньне раўнавагі. Травень 1952 году можна назваць пачаткам разьвязкі справы Бэрыі-Мяркулава.

### 46. Канфлікт між вонкавай і нутранай палітыкай

Умоўна будзем гаварыць аб Молатаве й Бэрыі, але будзем помніць, што ў запраўднасьці за іхнымі сьпінамі стаялі пэўныя сацыяльныя й нацыянальныя сілы. Фактычна, можа быць, беспасярэдняе змаганьне йшло навет ня між імі, а між іхнымі апорамі.

Ведама, што пасьляваенная вонкавая палітыка давяла СССР да граніц бадай што поўнай ізаляцыі ад рэшты сьвету. Сымпатыі, зроджаныя бліскучымі перамогамі савецкай арміі, шыбка траціліся. Дзяржава рабілася банкротам у вачох народаў сьвету. За СССР шыбка замацоўвалася агідная назва акупанта й імпэрыялістага, панявольніка й заграбніка. На Захадзе ствараліся моцныя абаронныя саюзы й блёкі. «АНТ-ызм, НЕТ-ызм і ДАЛОЎ-ізм» рэдка інтэнсыфікаваліся. Пачаліся антысавецкія радыяперадачы. І гэтак далей.

Усё гэта стварыла ў дзяржаве атмасфэру нэрвовасьці, псыхалягічнага напружаньня. Бэрыя, як кіраўнік нутранай бясьпечнасьці, як адказны за г. зв. «маральна-палітычны стан заплечча», літаральна зарэпэтаваў. Паказваючы пальцам на Молатава, ён гаварыў: гэта — **ягоная** работа! Можа быць, што ён навет зажадаў зьняцьця Молатава.

Апошні, у сваю чаргу, паказваючы пальцам на Бэрыю, гаварыў: **ён** ня здольны заглушыць антысавецкія радыяперадачы; **ён** ня здольны запабегчы ўцёкам савецкіх грамадзян на Захад; **ён** ня здольны вылоўліваць іншаземных шпіёнаў, якіх засылаюць англа-амэрыканскія імпэрыялістыя. Можа быць, што Молатаў навет зажадаў зьняцьця Бэрыі.

Адным словам, што было добрага для нутранай палітыкі, было дрэнным для вонкавай палітыкі, а што добрага для вонкавай палітыкі, было дрэнным для нутранай палітыкі. Але калі ў цэнтралізаванай дзяржаве назіраюцца такія супярэчнасьці, ліхаманка нямінуча ахоплівае ўсю дзяржаву.

Нарысаваная схэма, звычайна, мае ўпрашчэньні, сумысную схэматызацыю сытуацыі, але я раблю гэта з мэтаю даць асноўную ідэю.

### 47. Сьмяротны бой між верхавінамі МВД і МГБ

Як паліцыйны надміністар Бэрыя ачольваў МВД і МГБ. Пры гэтым важна памятаваць, што МВД займаецца пераважна нутранымі пытаньнямі, як, прыкладам, ахаронаю прамысловых прадпрыемстваў і ўстановаў, нясеньнем звычайнай міліцыйнай службы, падтрымліваньнем нутранага правапарадку, утрымоўваньнем канцэнтрацыйных лягераў, турмаў і г. д. МГБ займаецца, наадварот, пераважна вонкавымі пытаньнямі, як, прыкладам, шпіёнствам і разьведкай ў іншых дзяржавах, контрразьведкай, транспартаваньнем дыпляматычнай пошты і дзяржаўных дзеячоў.

Але ніколі й ніякі шпіён не пасылаецца за мяжу бязь ведама й згоды адпаведнага аддзелу міністэрства замежных справаў (не абавязкава, каб самі шпіёны ведалі аб гэтым).

Шпіёнамі ў вонкавым сьвеце беспасярэдна кіруюць дыпляматы, пасольствы, значыцца людзі Молатава, тым часам як **фармальна** падпарадкаваныя яны былі Бэрыі. Такім чынам, папросту кажучы, значная й найпрафэсіянальнейшая частка савецкіх разьведвальнікаў і контрразьведвальнікаў паволі падпала пад уплыў Молатава, міністэрства вонкавых справаў, і да 1952 году сталася зброяю «молатаўцаў». Бэрыя не захацеў з гэтым па-

# Прыйдзе нямінучае зьнішчэньне бальшавіцкай дыктатуры

**РЭЗАЛЮЦЫЯ Ў СПРАВЕ БАЛЬШАВІЦКАЕ ПРАПАГАНДЫ СЯРОД ЭМІГРАНТАЎ ЗА ПАВАРОТ ДА АЙЧЫННЫХ КРАЁЎ.**

6-ы Кангрэс Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў ЗША, які адбыўся 28 і 29 траўня ў Нью Ёрку, аднагалосна прыняў гэтакую пастанову ў справе савецкае прапаганды сярод эмігрантаў за паварот пад уладу бальшавіцкага бяспраўя і тэрору.

«Крывавыя ўладары народаў савецкае імпэрыі, устрывожаныя фактам існаваньня й палітычнай дзейнасьці эміграцыі з краёў паняволеных расейскім бальшавізмам, а між імі і вольнай эміграцыі беларускай, узьнялі апошнім часам настырлівую й шумлівую прапаганду за паварот гэтае эміграцыі ў бальшавіцка-расейскую вязьніцу народаў — СССР.

Бальшавіцкая Масква добра ўсьведамляе сабе небясьпечнасьць для бальшавізму дзейнасьці палітычнае эміграцыі, якая раскрывае вочы жыхарству ўсяго сьвету на крывавую сутнасьць аднэй з найбольш жудасных у гісторыі сьвету дыктатураў — дыктатуры бальшавіцкае. Занепакоеная й запалоханая …оная Масква яшчэ асабліва таму, …ольны голас эміграцыі, ня гледзя…а ўсе савецкія зялезныя заслоны, …ікае ўсё-ж і да народаў паняволе… Масквою, мацуе іхную нягаснучую …ру ў хуткае зьнішчэньне бальшавізму вызваленьне да вольнага сужыцьця з вольнымі народамі сьвету.

Ня маючы непасрэднага ўзьдзеяньня на эміграцыю праз свае крывава-эгзэкутыўныя ўстановы, маскоўскія каты намагаюцца сяньня заманіць яе ў крывавыя кіпцюры МВД абяцанкамі вольнага жыцьця й працы на бацькаўшчыне й «дараваньнем віны», — віны з тэй прычыны, што эмігранты выбралі волю замест бальшавіцкага канцлягеру — СССР.

6-ы Кангрэс Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сьцьвярджае, што беларуская эміграцыя верыць у паварот на Бацькаўшчыну, але тады, калі паняволеныя народы парвуць ланцугі свайго рабства й калі, поплеч зь іншымі народамі, Беларускі Народ сам стане гаспадаром свае зямлі, каб адбудаваць сваё, зьнішчанае бальшавіцкай агрэсіяй, гаспадарства — Беларускую Народную Рэспубліку. Адначасна Кангрэс станоўка дэмаскуе ілжывую савецкую прапаганду аб нібы бяспраўным і матар'яльным цяжкім жыцьці эміграцыі. Беларуская эміграцыя, што жыве ў Амэрыцы, мае поўную магчымасьць працаю забясьпечыць свой матар'яльны дабрабыт і карыстаецца палітычнымі свабодамі амэрыканскага дэмакратычнага ладу.

Эмігранты, як і ўсе грамадзяне Задзіночаных Штатаў Амэрыкі, ня знаюць ні калгаснага ні якога іншага прыгону працы, ніякіх бяспраўных арыштаў, канцлягераў, ліквідацыі нявіннага жыхарства й народагубнага зьнішчэньня цэлых народаў. Аб гэтых жудасьцях, што існуюць толькі ў Савецкім Саюзе, вольны сьвет даведваецца найбольш з расказаў эмігрантаў. Аблыжнаю маною аб бяспраўі й цяжкім матар'яльным стане працоўных у Амэрыцы ды ў іншых вольных краінах сьвету бальшавікі хочуць зацяніць той наяўны факт галечы й вечных нястачаў, якія камуністычны лад прынёс для ўсіх падсавецкіх народаў, і той нялюдзкі тэрор і зьдзекі свайго злачыннага рэжыму, у выніку якіх зьгінулі ўжо дзесяткі мільёнаў нявінных ахвяраў, а ў гэтым і некалькі мільёнаў беларускіх сялян і работнікаў.

6-ы Кангрэс БАЗА заклікае ўсю беларускую эміграцыю ЗША і ўсяго сьвету ў вадказ на ўзнятую аблыжную бальшавіцкую прапаганду задзіночыцца цясьней, каб адзіным супольным фронтам узмоцніць яшчэ актыўнасьць у раскрываньні перад вольным сьветам злачыннай антынароднай сутнасьці бальшавіцка-расейскага імпэрыялізму.

Нарастаючае ў сьвеце зразуменьне існасьці савецкага рэжыму, разам з ростам антыбальшавіцкіх настрояў сярод народаў СССР, прывядзе да нямінучага зьнішчэньня крывавай бальшавіцкай дыктатуры над народамі, а гэтым самым прывядзе й да вызваленьня Беларускага Народу й Беларусі ды да павароту на вольную Бацькаўшчыну, рассыпаных сяньня па сьвеце беларускіх эмігрантаў.

**Нью Ёрк, 29 траўня 1955 г.**

**Прэзыдыюм 6-га Кангрэсу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня**

# Савецкая выстаўка ў Буэнос Айрэс

Ад даўжэйшага часу аргентынскі ўрад вёў гандлёвыя перагаворы з Савецкім Саюзам, у выніку якіх быў падпісаны 18 травеня сёлета гандлёвы дагавор між абедзьвюма дзяржавамі на суму 100 мільёнаў даляраў. Згодна гэтага дагавору Аргентына дае воўну, скуры, аліву, мяса, кансэрвы, масла і рад іншых спажывецкіх прадуктаў, у замен за што атрымлівае ад Саветаў зялеза, бляху, алюмінь, вугаль і дзерава.

Карыстаючыся з нагоды гэтага дагавору, Савецкі Саюз, у знак прыязьні, зажадаў зрабіць прапагандовую выстаўку сельска-гаспадарскіх, індустрыяльных лёгкіх і цяжкіх машынаў. Выстаўка была адкрытая ў Буэнос Айрэс 14 травеня сёлета й трывала цэлы месяц. Пад выстаўку было занята 13 000 кв. мэтраў, зь якіх 3 000 мэтраў заняў правізарычна пабудованы дом. Ён знаходзіўся пасярэдзіне пляцу і зьмяшчаў у сабе драбнейшыя машыны, мэдыцынскія прылады, розныя тканіны, а таксама гарэлку ды шмат рэчаў, якіх савецкі жыхар ня бачыў і ў вочы. У розных камуністычных газэтах і часапісах, якія выходзяць у Аргентыне, перад выстаўкай, як і ў час яе, шумна пісалася, што Савецкі Саюз зьяўляецца гатовым даць усе магчымыя рэчы, што знаходзяцца на выстаўцы, па шмат даступнейшай цане і ў лепшай якасьці, чымся іншыя краіны, асабліва Амэрыка.

Выстаўку пачало наведваць шмат людзей, асабліва із старой эміграцыі зь земляў, занятых сяньня Савецкім Саюзам. Гэтыя людзі пад уплывам савецкай прапаганды зьяўляюцца сяньня перакананымі аб «шчасьлівым і радасным жыцьці», якім цешацца жыхары Савецкага Саюзу.

На выстаўцы можна было пабачыць усё найлепшае зь індустрыі, што толькі Саветы маглі выпрадукаваць. Таксама можна было пабачыць трактары, на якіх віднеліся надпісы «Беларусь», і розныя сельска-гаспадарскія машыны, якія выробляюцца ў Менску. Сама выстаўка абсалютна не зрабіла ніякага ўражаньня на перасечнага грамадзяніна Захаду, бо яна паказала, што Савецкі Саюз у прыраўнаньні да кажнай заходняй індустрыяльнай краіны астаецца далёка з заду. Навет на самай выстаўцы некаторыя машыны пры дэманстраваньні іх аказаліся бяз руху, хоць у іхнай направе аж пацелі савецкія інжынеры й тэхнікі. Дык што-ж гаварыць аб прыгоднасьці гэтых машынаў, калі іх пусьціць да выкананьня працы, да якой яны прызначаныя. Для мантаваньня й прапаганды прыехала з Савецкага Саюзу каля сотні чалавек, спасярод іх 20 спэцыялістых інжынераў. Усе яны паводля свайго вонкавага выгляду аднолькавыя і прадстаўляюць сабой здэмабілізаваных жаўнераў, бо вопратка на іх аднолькавага гатунку з тэй розьніцай, што на адных большага, на іншых меншага разьмеру, а ў некатарых праз зашпілены каўнер можна было пабачыць голыя грудзі.

Гэтыя людзі ў прыватныя гутаркі зусім стараюцца не ўваходзіць, а толькі расхвальваюць выстаўленае, зазначаючы пры гэтым, што гэта ня першарадныя гатункі, бо ёсьць яшчэ лепшыя. Аб заработках савецкага жыхара таксама нічога не хацелі гаварыць. Адказвалі толькі вывучанымі камуналамі: хопіць вам таго, што там людзі жывуць добра, маюць што есьці, дзе жыць, выпіць і закусіць, пайсьці ў кіно-тэатр і г. п. Аднак, ня гледзячы на гэта, некаторыя прагаварыліся аб запраўдным жыцьці пад Саветамі. Напрыклад адзін інжынер, будучы адным, параўноўваў жыцьцё ў Маскве і ў Буэнос Айрэс, сьцьвярджаючы, што там так свабодна і без патрэбы ня ходзяць па вуліцах, заглядаючы ў выставовыя вокны, а калі й ходзяць, дык гэта толькі сем'і чужынцаў. Таксама падаў арыентацыйныя заработкі работнікаў. Просты работнік атрымлівае 800 рублёў у месяц, кваліфікаваны работнік — 1 000—1200 рублёў, інжынер такі, як ён сам, 2 500 рублёў. Тут зараз пала пытаньне, ці работніку магчыма купіць лёгкавую машыну, якая тут ёсьць на выстаўцы? На гэтае пытаньне быў адказам напіс на аднэй такой аўтамашыне, які абазначаў ейную цану ў вышыні 40 000 рублёў.

Найбольшае ўражаньне зрабіла выстаўка на старых эмігрантах, якія цяпер не даюць закрыцца дзьвярам у савецкім консуляце, стараючыся выехаць у Савецкі Саюз. Ужо запісалася на выезд 144 000 асобаў. Бяда толькі ў тым, што паварот на бацькаўшчыну адбываецца «плянава»: людзей не вяртаюць туды, адкуль яны прыехалі, а заахвочваюць іх групова ехаць на «цаліну» Казахстану, Сібіру і іншых аддаленых раёнаў Савецкага Саюзу.

**В. Ліскавецкі**

# Камітэт за паварот на бацькаўшчыну пры „акцыі“

Усходнябэрлінскі г. зв. «Камітэт за паварот на бацькаўшчыну» на чале з крывавым энкавэдыстым генэралам Міхайлавам да апошняга часу праяўляў сваю дзейнасьць галоўна ў тым, што рассылаў эмігрантам з Савецкага Саюзу ўва ўсе краіны іхнага пасяленьня сваю месячную газэціну ў расейскай мове «За возвращение на родину» і «Зварот» гэтага Камітэту ўва ўсіх мовах народаў Савецкага Саюзу. Апошнімі-ж днямі ўспомнены «Камітэт за паварот на бацькаўшчыну» сваю дзейнасьць пашырыў на выконваныя ім акты крымінальнага характару. Пайменна, ён цераз сваіх агентаў у Заходняй Нямеччыне пачаў рабіць начныя ўзломы ў канцылярыі лягераў і пасёлкаў для безьдзяржаўных чужынцаў і выкрадаць адтуль картатэкі і іншыя пэрсанальныя дакумэнты жыхароў гэтых лягераў.

Гэтак у ночы з 5 на 6 ліпеня быў зроблены ўзлом у канцылярыю чужынецкага пасёлку ў Розэнгайме, адкуль былі выкрадзеныя акты й пэрсанальная картатэка ўсіх жыхароў пасёлку. Дзень пазьней, у ночы з 6 на 7 ліпеня быў зроблены такі-ж узлом і выкрадзеная пэрсанальная картатэка ў канцылярыі летувіскага пасёлку ў Аўгсбургу. Нямецкая прэса 8 ліпеня паведаміла, што тое самае мела месца перад некалькімі днямі ў чужынецкім лягеры ў Карльсругэ. Ува ўсіх трох выпадках былі выкрадзеныя толькі картатэкі і іншыя пэрсанальныя дакумэнты лягерных жыхароў, затое іншая маемасьць, а ў вадным з успомненых лягераў навет скрынка з грашыма, былі не закранутымі.

Няма патрэбы задзержывацца над пытаньнем, для якой мэты патрэбныя бальшавіком пэрсанальныя акты палітычных эмігрантаў. Яны ім патрэбныя для кажнай мэты, да якой вядзе ўсякая бальшавіцкая акцыя супраць эмігрантаў: для плянаваньня й выконваньня палітычных забойстваў, для ўсякага роду правакацыі, дывэрсіі ўлучна із здабываньнем адрасоў для высыланьня газэткі «За возвращение на родину». Тры ведамыя нам выпадкі начнога ўзлому, дакананыя амаль адначасна, сьветчаць аб тым, што гэтая акцыя ёсьць заплянаваная й кіраваная з бэрлінскага цэнтру і сыстэматычна праводжаная ў Заходняй Нямеччыне бальшавіцкімі агентамі.

Нас моцна абурае абыякавая неасьцярожнасьць нямецкай адміністрацыі лягераў і пасёлкаў для безьдзяржаўных чужынцаў. У вадным і тым самым часе былі пасьпяхова выкрадзеныя картатэкі аж у трох чужынецкіх лягерах, а ў ніводным выпадку зладзеі ня былі злоўленыя. Калі ў часы УНРРА—ІРО чужынецкія лягеры адміністраваліся самымі жыхарамі лягераў і калі савецкія рэпатрыяцыйныя місіі ня менш былі зацікаўленыя ў выкраданьні іменных сьпіскаў і картатэкаў эмігрантаў, падобныя, як цяпер, выпадкі ўсё-ж такі не здараліся.

**(-іч)**

# Экранізаваньне тэатральных паказаў замест стварэньня кінафільмаў

Некалі на золаку свайго існаваньня Кінастудыя «Беларусьфільм» рабіла спробы стварыць некалькі сапраўды нацыянальных беларускіх кінафільмаў. Дзякуючы беспасярэдняму ўплыву беларускіх нацыянальных культурных дзеячоў у дваццатых гадох, студыя «Беларусьфільм» стварыла некалькі нядрэнных, як на той час, фільмаў на беларускія тэмы. Сярод гэтых фільмаў вылучыліся такія выдатныя фільмы на патрыятычныя тэмы, як «Лясная быль» паводля аповесьці Міхася Чарота (Кудзелькі) ды слаўны фільм «Кастусь Каліноўскі», які абыйшоў з посьпехам усе экраны СССР і на сяньня яшчэ ў розных глухіх кутках СССР паказваецца з тым-жа посьпехам. Аднак у Беларусі гэты фільм ужо ад пачатку трыццатых гадоў быў забаронены, бо прызнаны быў шкодным за ідэялізацыю беларускага нацыянальнага гэроя, правадыра паўстаньня 1863 году, змагара за волю беларускага народу, незабыўнага Кастуся Каліноўскага. Гэта было ў пэрыяд распачатага змаганьня камуністычнай партыі супраць беларускіх нацыянал-дэмакратаў. Усё створанае імі было абвешчана контррэвалюцыйным, а самога Каліноўскага бальшавікі абвесьцілі дробна-буржуазным гэроем або проста шляхцюком, што ў іхных вуснах гучэла зьдзекліва і кампрамітуюча. Забарона нацыянальнага гэроя трывала аж да часу рэгабілітацыі яго ў кнізе-падручніку па гісторыі СССР пад рэдакцыяй праф. Шастакова. Аднак на Беларусі аднаўленьне ў правох гэроя Кастуся Каліноўскага прыйшло толькі ў часе апошняй вайны, калі яго імя пачало эксплятавацца з мэтаю патрыятычнае прапаганды, патрэбнае для змаганьня зь Немцамі.

Забарона нацыянальных гэрояў на працягу трыццатых гадоў выклікала поўны застой у працы кінастудыі «Беларусьфільм». Наплыў чужых Беларусі элемэнтаў у якасьці спэцыялістах кінасправы і адсутнасьць арыентацыі на бе-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

---

гадзіцца. Ён пастанавіў «адабраць сваіх», але спаткаўся зь неспадзяваным супраціўам невядомых сілаў. У канфлікт умяшаўся міністар дзяржаўнае кантролі генэрал арміі Мяркулаў і тымчасовую перамогу ўсё-ж атрымаў Бэрыя. Існуюць дадзеныя прыпускаць, што не малую ролю ў гэтым адыграў і Абакумаў, які ненавідзеў Молатава і Ко.

Гэтак пачаўся глыбака закансьпіраваны сьмяротны бой між прабэрыяўскай верхавінкай МВД і прамолатаўскай верхавінкай МГБ, бой, які ня знаў прэцэдэнсу ў гісторыі савецкай дзяржавы, бой, які закончыўся расстрэлам Бэрыі, Мяркулава, Кабулава, Гоглідзэ, Мешыка, Дэканозава, Абакумава й цэлага раду іншых высокапастаўленых сяброў паліцыйнай алігархіі.

### 48. Першы этап разьвязкі

Вышэй было адцемлена, што ўмяшаньне Мяркулава дало часовую перамогу Бэрыі. Верхавінка МГБ прымушаная была здацца. Але гэта была ўступка часовая, тактычная. Неўзабаве алігархія МГБ змагла знайсьці неабходныя прычыны для таго, каб выкінуць вон собскага міністра Абакумава за капітуляцыю перад Бэрыяй і Мяркулавам. У пэрыяд XIX зьезду камуністычнай партыі Савецкага Саюзу паявіліся незапярэчныя довады рэзкага й хуткага аслабленьня пазыцыяў Бэрыі-Мяркулава. У лістападзе-сьнежані 1952 году ўжо ня было сумлеваў, што за сьпіною ледзьве ня кажнага выдатнага работніка МГБ вырысавалася фігура значнага армейскага генэрала або дыпламаты.

8 студзеня 1953 году ў маім дзяньніку паявілася наступная зацемка: якіясь сілы намагаюцца перашкодзіць даваньню Бэрыі пазытыўнай характарыстыкі ў завеце Сталіна, яны пастанавілі дыскрэдытаваць яго яшчэ пры жыцьці Сталіна й вуснамі Сталіна, каб тым самым запабегчы магчымасьці заняцьця ім месца галоўнага дыктатара пасьля сьмерці Сталіна. Існуюць азнакі шыбкай сьмерці Сталіна.

За два дні я ўзноў запісаў: Бэрыя робіць памылкі Ягоды й Енукідзэ, не пасьпяшаючы арыштаваць сваіх супорнікаў...

Але лёгка пісаць дзяньнік, — куды складаней рабіць справы ў такой складанай сытуацыі. Здаецца, я ніколі так ясна не ўяўляў сабе жахлівай сутнасьці дзяржаўна-манапалістычных канцэпцыяў і цэнтралізацыяў. Было ясна, абсалютна ясна, што ў такім змаганьні ніколі й ніхто перамагчы ня можа. Было-ж на столькі ясна, што хто-бы ня перамог часова, народам СССР лепей ня будзе, паколькі мова йдзе за заўладаньне рухавікамі канцэнтрацыі й цэнтралізацыі, а не за скасаваньне канцэнтрацыі й цэнтралізацыі.

Ня будзе памылковым сказаць, што пасьля XIX зьезду партыі, калі молатаўцам удалося расставіць сваіх прыхільнікаў на досыць адказных становішчах, выплыў цалком канкрэтны плян расправы над Бэрыяй і Мяркулавам. Мабыць, гэта адбылося ў лістападзе-сьнежані 1952 году.

### 49. Аб змове лекараў і яе мэце

Але дасьветчаньне нішчэньня сваіх бальшавікоў паказвае, што для расправы й палітычнай дыскрэдытацыі за мала нутраных правакацыяў — абавязкава патрэбныя й вонкавыя правакацыі. Я ня знаю ніводнага апазыцыйнага лідэра, які абвінавачваўся-б толькі ў нутраных праступках.

У выпадку Бэрыі-Мяркулава гэтую ролю адыйгрывала гораведамая «змова лекараў», мэты якой цяпер прынята фармуляваць прыблізна гэтак:

Папершае, паказаць, што Бэрыя, як галоўны кіраўнік дзяржаўнай бясьпечнасьці, не патрапіў зарганізаваць бясьпечнасьці навет самых кіраўнікоў партыі й ураду.

Падругое, намёкам даць зразумець, што Жданаў памёр ня без дапамогі Бэрыі, у кажным выпадку Бэрыя ненавідзеў яго й прыкладаў ня мала сілаў для разгрому яго пасьлядоўнікаў у Ленінградзе і Маскве.

Патрэйцяе, даць намёк, што Бэрыя абставіў крэмлёўскую паліклініку шпіёнамі ў белых халатох, агентамі сьветнага капіталу, церазь якіх, **быць можа,** кантактуецца з пэўнымі «шпіёнамі» ў Ангельшчыне й Амэрыцы.

Пачацьвертае, шляхам складанай павуціны хітрасплятаньня стварыць уражаньне, што Бэрыя спрыяў распальваньню нацыянальных жарсьцяў і выклікаў антысэмітызм.

Папятае, паказаць, што Бэрыя ненавідзеў расейскі народ і падбураў нацыяналістых Каўказу, Украіны, Беларусі, Туркестану й Прыбалтыкі да антырасейскіх выступленьняў.

Я мушу засьцерагчыся, што гэта — не мае фармуляваньні. Я бачу ясна, што ў іх ёсьць лёгічныя супярэчнасьці. Але лепшых фармуляваньняў ня маю. Ды й ня трэба забывацца, што ў дзяржаве з 63-ма нацыямі і 200 народных групаў ня можа быць абсалютнай лёгічнасьці й розных зьявішчаў аднаго ў дачыненьні да другога. Але я перакананы, што, ня гледзячы на вачавідную прымітыўнасьць пералічаных мэтаў, яны зусім ня немагчымыя ў СССР. У нашай гісторыі былі мэты яшчэ прымітыўнейшыя і супярэчнейшыя. Што вартае, прыкладам, абвінавачаньне Енукідзэ ў намаганьні рэстаўраваць капіталізм у **Савецкім Саюзе,** у той час, як ён ставіў за мэту скасаваньне **Савецкага Саюзу** ў яго цяперашнім выглядзе. Як можна рэстаўраваць капіталізм там, чаго болей ня будзе? Крэмлёўскія захады ніколі ня бываюць абсалютна лёгічнымі і пагоджанымі з рэальнымі справамі.

### 50. Бэрыя пераходзіць у контрнаступ

Вось-жа, выконваючы волю пэўных колаў, верхавінка МГБ пастанавіла расправіцца з Бэрыям і Ко. Але Сталін, які любіў трымаць шпіёна над шпіёнамі, мабыць, даведаўся аб змове раней за самога Бэрыю. Ня выключаная магчымасьць, што ролю шпіёна над шпіёнамі йграў Паскрабышаў або Маленкаў.

Але ў МГБ таксама былі не прастакі. МГБ таксама трымае шпіёна над шпіёнамі, таму разьнюхала, што галоўны дыктатар ужо ведае аб змове, вось-жа паўстала небясьпека выкрыцьця, праваду, арышту й расстрэлу. Што-ж рабіць? Разьвязка наступала шыбка. Сталін «захварэў». Паводля некаторых дадзеных, гэта трапілася на беразе Чорнага мора, адразу-ж пасьля прыбыцьця дыктатара на адпачынак. Паводля тыхжа дадзеных, Бэрыя апамятаваўся й зразумеў, што й цераз што дзеецца. Як супэрміністар дзяржаўнай бясьпечнасьці, у падобных сытуацыях ён меў узаконенае права на надзвычайныя паўнамоцтвы, якія выкарыстаў безадкладна, абапіраючыся на верхавінку МВД і на лёяльную частку МГБ, і перайшоў у наважаны контрнаступ.

Зрабіўшы адпаведныя распараджэньні ў Маскве; зводьніў Абакумава з турмы і пасадзіў яго часова на чале МГБ; даў Мяркулаву дадатковыя надзвычайныя паўнамоцтвы, як міністру дзяржаўнае кантролі, асабліва паўнамоцтва кантролі над разьведкай і контрразьведкай (будзем памятаваць, што Мяркулаў у 1940-46 гг. быў кіраўніком МГБ); адразу-ж арыштаваў рад выдатных дзеячоў МГБ, — Бэрыя выляцеў на месца «абавязкавай хваробы», дзе асабіста выпытаў аднаго генэрал-лейтэнанта дзяржаўнае бясьпечнасьці, які даў яму ўсе неабходныя інфармацыі аб змоўніках і іхных натхняльніках.

З гэтага пачаўся разгром МГБ, якога савецкая гісторыя яшчэ ня знала. СССР пазнаў, што такое паліцыйная лютасьць паліцыйнага маршала.

### 51. Далёкайдучыя захады Бэрыі й Мяркулава.

Далейшы ход падзеяў малюецца ў наступным выглядзе. Нечаканая «абавязкавая хвароба» зрабіла вялізарнае ўражаньне на кіраўнічую групу, можна сказаць, на ўсю дзяржаву. Змоўнікі таксама зразумелі, што зайшлі вельмі далёка. Іхныя нямыя натхняльнікі, фармальна й юрыдычна астаўшыся чыстымі, разгубіліся і, звычайна, нічога не маглі болей зрабіць, каб ня стацца ахвярамі гневу сталінскай эліты, вельмі шматкольнаснай і сільнай. Апрача гэтага, ім трэба было лічыцца з тым, што Бэрыя выявіўся сганоўчым, шыбкім. Была ўжытая сталінская тэза: выйграць час, разлажыць ворага, назьбіраць сілаў і ўзноў перайсьці ў наступ.

Не абвяшчаючы пра «абавязкавую хваробу», ня выдаючы ніякіх бюлетэняў або камунікатаў, каб не даваць «буржуазным крыксуном» спажывы для варожасьцяў, каб не распальваць трывогаў у сярэдзіне самога СССР, Бэрыя, зь ведама і згоды рэшты тыранаў, склікае надзвычайны пленум ЦК КПСС у вабмежаваным складзе. На ім (пленуме), як ведама, прыймаюцца далёкайдучыя захады па рэарганізацыі ўраду. Асабліва заднім чыслом абвяшчаецца аб «задзіночаньні» МГБ з МВД, а ў запраўднасьці МГБ было ўжо распушчанае, разгромленае, ягоныя кіраўнікі арыштаваныя. У вышэйшай меры характэрна, што пра гэта нізы МГБ нічога ня ведалі, — іх інфармавалі толькі аб «задзіночаньні».

Толькі пасьля таго, як сытуацыя быццам перабывала пад уладаю Бэрыі, былі выдадзеныя адпаведныя заявы пра ўсё. Далей усё ведама, натолькі ведама, што няма патрэбы спыняцца над гэтым.

Я мушу засьцерагчыся й тут, што намаляваная храналёгія ня прэтэндуе на абсалютную дакладнасьць дэталяў. Асабліва хацелася-б зьвярнуць увагу на адсутнасьць дакумэнтальных дадзеных што да фактычнай рэакцыі Молатава, на наданьне яму **трэйцяга** месца замест чаканага месца нумар адзін.

**(Далей будзе)**

